ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 13 (2363) 31 сакавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 30 рублёў.

## АПОШНІЯ З ХАТЫНЦАЎ



**Яны прыехалі ў Хатынь у журботны дзень, калі памяць наймацней сціскае сэрца. Яны прыехалі да гэтых комінаў, у якіх вецер выводзіць рэквіем па тых душах, што агнём адляцелі ў глыбокую далячынь неба 22 красавіка 1943 года. Цудам ці Богам уратаваныя апошнія з жыхароў спаленай фашыстамі Хатыні: Віктар Жалабко, брат з сястрой Яскевічы, Уладзімір і Соф'я.**

**Яны былі разам з сотнямі іншых, каб адзначыць 51-ю гадавіну трагічнай згубы Хатыні, -- Дзень памяці.**

**У той дзень зноў было людна на мемарыяле, быццам людзі ўспомнілі дарогу ў Хатынь, якая ў апошні час стала зарастаць травой бяспамяцтва. Але чым жа вінаваты тыя, хто аддаў сваё жыццё дзеля Бацькаўшчыны!**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

ПРА ЛЁС Палуты БАДУНОВАЙ

## "...Я ЧУЮСЯ ЯК БЫЛІНКА Ў ПОЛІ"

Палута Бадунова -- наколькі гучнае, настолькі загадкавае імя ў гісторыі беларускага руху і барацьбе за дэмакратычную дзяржаўнасць Беларусі. Гэта адзінае жаночае імя, якое мы сустракаем у кіраўніцтве амаль усіх нацыянальных палітычных арганізацый 1917--1920 гадоў: сябра ЦК і Прэзідыума Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Вялікай Беларускай Рады, Народны сакратар БНР, сакратар ЦК Беларускай партыі эсэраў, сустаршыня прэзідыума Народнай Рады БНР, міністр урада У.Ластоўскага, адзін з кіраўнікоў Беларускага паўстанцкага антыпольскага камітэта.

Пасля Э.Пашкевіч гэта найбольш значная постаць у беларускім вызваленчым руху. І тым не менш, у яе лёсе і біяграфіі шмат загадкавага і невысветленага. Раскрыць таямніцы яе жыцця поўнасцю сучасным даследчыкам цяжка таму, што галоўныя "сведкі" -- яе ўласныя рукапісы, дзённікі, вершы (аж 6 агульных сшыткаў) -- былі "арыштаваны" разам з гаспадыняй і прапалі ў нетрах НКУС. Патрабуюцца значныя намаганні ў пошуках яе публіцыстычнай, эпісталярнай і паэтычнай спадчыны.

Але па тым, што нам вядома сёння, можна сцвярджаць: хоць Палута Бадунова ступіла на беларускі шлях не ад самага пачатку, яго крыжовую частку яна прайшла да канца, перажыўшы ўсю трагедыю беларускай справы ў 20--30-я гады.

Адна з загадак яе жыцця -- якраз шлях да беларушчыны. Нарадзілася Бадунова Паліна-Пелагея ў 1885 годзе ў мястэчку Навабеліца, што было аддзелена ад Гомеля толькі ракой Сож, у сям'і, якая лічыла сябе рускай, выхаванне і адукацыю атрымала таксама расійскія. Сям'я Бадуновых была вядомай і ўплывовай у мястэчку. Бацька -- арандатар невялікага маёнтка ў наваколлі горада -- надаваў вялікае значэнне адукацыі дзяцей: два браты Пелагеі скончылі Пецярбургскі універсітэт, навучаліся і пяць дзяўчат, з якіх дзве -- Пелагея і Марыя сталі настаўніцамі. Пелагея скончыла Буйніцкую настаўніцкую вучэльню з пасведчаннем хатняй настаўніцы рускай мовы і геаграфіі, да пачатку першай сусветнай вайны працавала ў вясковых школах і земскіх вучэльнях Гомельскага павета. Нягледзячы на тое, што ў Гомелі Бадунова пражыла амаль 30 гадоў, аб яе палітычнай дзейнасці тут звестак не захавалася. У горадзе ў той час дзейнічалі сацыял-дэмакратычная, эсэраўскія і бундаўскія арганізацыі. Але, як паведамляў мясцовы жандарскі начальнік, гарадское настаўніцтва і навучэнцы выказвалі "полную лояльность относительно отечества и престола". Ды і ў асабістай справе настаўніцы П.Бадуновай сказана, што нічым, акрамя добрасумленнасці ды працы, яна не вызначалася, не мела ні ўзнагарод, ні дысцыплінарных заўваг.

Дакладна невядома, калі і з якой прычыны П.Бадунова трапляе ў Петраград. Настаўніца з русіфікавана-яўрэйскага мястэчка апынулася не толькі ў перадрэвалюцыйнай сталіцы, але і ў пецярбургскім беларускім асяродку, які выхаваў многіх дзеячаў нацыянальнага вызваленчага руху. Бадунова блізка сышлася з гэтым асяродкам, прымкнуўшы да леванародніцкага крыла Беларускай сацыялістычнай Грамады, якое ўзначальваў 18-гадовы Тамаш Грыб. Палута хутка ўключаецца ў вялікую палітыку: адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі абіраецца дэпутатам Петрасавета ад слухачоў Вышэйшых курсаў, улетку 1917 года становіцца членам ЦК і Прэзідыума БСГ.

Падзеі паімкнулі яе ў эпіцэнтр барацьбы за нацыянальнае і дзяржаўнае самавызначэнне Беларусі. Разам з лідэрамі нацыянальнага руху А.Смолічам, Я.Лёсікам, Зм.Жылуновічам Бадунова ўвайшла ў кіраўніцтва Вялікай Беларускай Рады, прымала чынны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з"езда: ёй было даручана вырашэнне адной з самых складаных і балючых для Беларусі праблем -- праблемы бежанцаў і інвалідаў. Яна аказалася таксама адзінай жанчынай у сакратарыяце Беларускай Народнай Рэспублікі, узначаліўшы справы апекі. Яе подпісы стаяць пад гістарычнымі Устаўнымі граматамі, якія абвясцілі ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, а затым і яе незалежнасць.

Бадунова стала сведкай і ўдзельніцай усёй драматычнай гісторыі БНР. Левае крыло БСГ, у якое яна ўваходзіла, паслядоўна адстойвала дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі, лічыла небяспечным саюз з больш магутнымі суседзямі -- Расіяй, Польшчай, Германіяй. Таму сумна вядомая тэлеграма канцлеру Вільгельму была кваліфікавана як здрада рэвалюцыйнага сацыялізму і беларускага народа перад германскай манархіяй і імперыялізмам. Т.Грыб, П.Бадунова і іншыя пакінулі Раду і Народны сакратарыят БНР.

Красавіцкі крызіс прывёў да распаду БСГ на некалькі самастойных партый. 29 сяброў левага крыла БСГ стварылі Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). Узначаліў партыю Т.Грыб, а сакратарамі ЦК сталі яго паплечнікі -- П.Бадунова і Я.Мамонька.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ЯДЗЕРНАЯ ЗБРОЯ Ў НАДЗЕЙНЫХ РУКАХ



**Аднадзённы візіт міністра абароны ЗША Уільяма Перы ў Мінск хутчэй нагадваў інспекцыйную паездку і быў настолькі бліскавічным, што на прэс-канферэнцыі журналісты паспелі задаць толькі два пытанні. Мэта візіту ў Беларусь, як і ў Казахстан і на Украіну, была адна: асабіста ўпэўніцца ў бяспечнасці існуючай ядзернай зброі былога СССР і праграм яе вываду на тэрыторыю Расіі. Ад"язджаючы з Мінска ў Вашынгтон, ужо на борце самалёта, Уільям Перы выказаў сваё задавальненне і ўпэўненасць, што ядзерная зброя ў надзейных руках і верагоднасць інцыдэнтаў, звязаных з ёю, мінімальная.**

**Да Беларусі ў ЗША асобы падыход, паколькі наша дзяржава фактычна не з'яўляецца ядзернай, а стратэгічная зброя, што знаходзіцца на нашай тэрыторыі, належыць Расіі і будзе выведзена на працягу 1995--1996 гадоў. У Мінску Уільям Перы заявіў аб трох рэальных амерыкана-беларускіх кантрактах у галіне канверсіі. Гэта першыя кантракты ЗША па канверсіі з якой-небудзь іншай краінай.**

**Амерыканскі бок з разуменнем паставіўся да нашай просьбы аб дапамозе ў сродках на знішчэнне звычайных узбраенняў і абяцаў выдзеліць на гэтыя мэты дадаткова 5 мільёнаў долараў.**

**НА ЗДЫМКУ: міністр абароны ЗША Уільям ПЕРЫ і Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. КЕБІЧ за сталом перагавораў.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*РУБЛЁВАЯ ЗОНА*

## МЭТА ЖЫЦЦЯ В. КЕБІЧА ЗДЗЕЙСНІЦЦА?

**Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі будзе абавязкова падпісаны. Упэўненасць у гэтым выказалі пасля праведзенага 23 сакавіка раніцай у Мінску першага раунда перагавораў прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч і старшыня Камітэта Савета Федэрацыі Расіі па бюджэтнаму, фінансаваму і крэдытнаму рэгуляванню, грашовай эмісіі, падатковай палітыцы і мытнаму рэгуляванню Мікалай Ганчар.**

**Што ж датычыцца нібыта выстаўленых Расіяй патрабаванняў аб ліквідацыі Нацыянальнага банка Беларусі, увядзенні адзінага бюджэту і г.д., то Мікалай Ганчар заявіў: непрымальных для Беларусі ўмоў расійскі бок не ставіць.**

**Тэрміны падпісання заключных дакументаў будуць вызначаны пасля завяршэння цяперашніх перагавораў і далейшых двухбаковых сустрэч у Маскве. Мікалай Ганчар адзначыў, што цяпер як у Расіі, так і ў Беларусі "ідзе працэс асэнсавання таго, што адбывалася за апошнія гады. Наша задача -- зрабіць, каб наша мінулае не цягнула нас назад, а дапамагала ісці наперад. Усё, што мы робім, накіравана на тое, каб людзі жылі лепш, каб палітычныя догмы не перашкаджалі гэта рабіць".**

*"Апошнім часам адбываецца ўсведамленне таго, што ж гэта такое -- аб'яднаная грашовая сістэма. Чым больш мы пачынаем разбірацца, тым больш пераконваемся, што па сутнасці размова ідзе аб больш сур'ёзным пытанні -- аб стварэнні адзінага арганізма. Што тычыцца эканомікі, то практычна ўсе праблемы вырашаны. Тыя ўмовы Расіі, на якія іншы раз спасылаюцца як на непрымальныя, аб'ектыўныя, яны эканамічна непазбежныя. І многія нашы беларускія калегі з гэтым згодныя. Сёння ўсё ўпіраецца ў палітыку. Бо ясна: каб эканамічныя механізмы запрацавалі да ўзаемнай выгады, трэба шукаць нейкую новую форму палітычнай інтэграцыі дзвюх краін. Так ці інакш усе мы павінны ясна ўсведамляць: эканамічны саюз -- гэта папярэднік палітычнага аб'яднання. Ці ў форме канфедэрацыі, ці чаго-небудзь другога. Іншага шляху проста няма."*

*Герман КУЗНЯЦОЎ,*
*першы намеснік міністра Міністэрства Расійскай Федэрацыі па супрацоўніцтву з краінамі -- ўдзельніцамі СНД.*

*СТАТЫСТЫКА СПАДУ*

## З ЧАГО БУДАВАЦЬ?

**Па разліках Дзяржкамстата, спад аб'ёму вытворчасці ў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў за першыя два месяцы 1994 года склаў 43,1 працэнта ў параўнанні з адпаведным леташнім перыядам.**

**Пры агульным спадзе будаўніцтва знізіўся попыт на будаўнічыя матэрыялы. З-за высокай энергаёмкасці рэзка ўзраслі цэны. Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў аказалася нават у больш цяжкім становішчы, чым іншыя галіны.**

**У студзені і лютым у Беларусі выпушчана на 33 працэнты менш глінянай цэглы, на 45,7 працэнта -- сілікатнай. Вытворчасць цэменту скарочана на 51,1 працэнта, мяккіх дахавых матэрыялаў -- на 71,7.**

*У ВІЛЬНІ*

## ПАМЯЦІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

**24 сакавіка на сцяне Дамініканскага кляштара ў Вільні ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка памяці Кастуся Каліноўскага. У гэтым будынку, які ў 1864 годзе быў ператвораны расійскімі акупацыйнымі ўладамі ў турму, нацыянальны герой Беларусі правёў у зняволенні апошнія дні перад павешаннем.**

**Даўнейшая мемарыяльная дошка памяці Каліноўскага была выканана па-літоўску і па-руску. Прычым па-руску было выбіта "Костас Каліноўскас". Надпіс на новай дошцы (яе аўтар -- мінскі скульптар Алесь Мірончык) зроблены па-літоўску і па-беларуску. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі прымеркавана да Дня незалежнасці Беларусі -- 25 сакавіка. Арганізавала яго Таварыства беларускай культуры ў Літве.**

*ЭКАЛОГІЯ*

## ДЗЕ НАПІЦЦА ЧЫСТАЙ ВАДЫ

**Як паказалі даследаванні, праведзеныя Беларускім навукова-даследчым інстытутам экалогіі, жыхары Гомеля церпяць не толькі ад радыяцыі, але і ад забруджвання горада мыш'яком, ртуццю, цынкам, свінцом і іншымі цяжкімі металамі.**

**Значна расшырыліся межы забруджвання грунтавых і паверхневых вод адходамі хімічнага завода. Прычым гэты працэс ідзе хутчэй, чым меркавалася раней.**

**Спецыяльная камісія ацаніла экалагічную страту, якую наносіць навакольнаму асяроддзю толькі гэтае прадпрыемства, у 3,7 мільярда рублёў штогод.**

*76-я ЎГОДКІ БНР*



**У адрозненне ад мінулагодніх, сёлетнія ўрачыстасці, звязаныя з 76-й гадавінай абвяшчэння БНР, насілі зусім камерны характар. Не было Старшыні Рады БНР д-ра Язэпа Сажыча, не было Станіслава Шушкевіча, як, зрэшты, не было і ўрачыстага вечара ў філармоніі. Адбыўся толькі мітынг у сталічным парку Янкі Купалы. Масавасці, на жаль, таксама не было. Сабраліся толькі людзі, якім дарагая дата 25 сакавіка. Праводзілі мітынг БНФ "Адраджэнне", Грамада, іншыя дэмакратычныя арганізацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: мітынг у парку Янкі Купалы ў Мінску, прысвечаны 76-м угодкам БНР.**

*КАНФЕРЭНЦЫІ*

## СКЛАДАЮЦЦА ПАДРУЧНІКІ

**У польскім горадзе Казімеж-над-Віслай, што пад Люблінам, прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па напісанню падручнікаў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Над гэтай серыяй падручнікаў працуе творчы калектыў рэдактараў з Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы. Нашу рэспубліку прадстаўляе дэпутат Вярхоўнага Савета Алег Трусаў. Мы, дарэчы, ужо падрыхтавалі першы варыянт падручніка па гісторыі Беларусі, цяпер трэба ўзгадніць яго змест з рэдактарамі іншых краін -- нашчадкаў Вялікага Княства.**

**Апошняя сустрэча рэдактарскага калектыву, як плануецца, пройдзе летам бягучага года. Пасля кожны з падручнікаў будзе выдадзены ў чатырох дзяржавах на іх мовах, а таксама па-руску і па-англійску. Фінансуе гэты праект Джорджтаўнскі універсітэт ЗША.**

*АДРАДЖЭННЕ*



**Яшчэ адзін храм — царква Серафіма Сароўскага Цудатворцы з'явіўся на зямлі палескай. Пабудаваны ён у адным з самых маладых гарадоў Брэстчыны -- Белаазёрску, прычым у рэкордны тэрмін -- усяго за паўтара года. Храм асвячоны ўладыкам Філарэтам.**

**У перапынках паміж богаслужэннямі заканчваюцца ўнутраныя аддзелачныя работы. Хутка мастакі пачнуць роспіс купалаў і сцен, іканастаса. Пабудаваны храм на грошы, сабраныя веруючымі, а таксама на ахвяраванні мясцовых калгасаў, саўгасаў, арганізацый і кааператываў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СТАРШЫНЯ Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслаў Грыб у гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" паведаміў, што жыве ён у звычайным доме, кватэра плошчай 54 квадратныя метры і цесная кухня (7 квадратных метраў). Яго жонка працуе бухгалтарам у Міністэрстве энергетыкі. Сын -- кандыдат медыцынскіх навук, выкладае ў медінстытуце, дачка -- студэнтка другога курса юрыдычнага факультэта БДУ.

ФОНД Сораса ў Беларусі мае намер стварыць цэнтр для тэле-, радыёжурналістаў і газетчыкаў. Праграма прадугледжвае стварэнне новай журналістыкі ў нашай дзяржаве. Перавага будзе аддавацца маладым, здольным прадстаўнікам незалежнай прэсы.

ВЯРХОЎНЫ Савет Беларусі прыняў пастанову абмежаваць крэдытную эмісію на першае паўгоддзе бягучага года да 1,9 трыльёна рублёў, а на другое -- 0,5 трыльёна рублёў. Як заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка С. Багданкевіч, абмежаванне эмісіі дазволіць затармазіць рост інфляцыі. Нагадаем, што з пачатку 1994 года Нацыянальны банк вымушаны быў выдаць 2,3 трыльёна рублёў безрэсурсных крэдытаў.

САЮЗ прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь рашыў "увязацца" ў вялікую палітыку і, калі ўдасца, дабрацца да ўлады. Савет саюза прыняў пастанову рэкамендаваць прэзідэнту гэтай арганізацыі Уладзіміру Карагіну даць згоду на вылучэнне сваёй кандыдатуры на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

ЯК ПАВЕДАМІЎ міністр абароны П. Казлоўскі, у 1993 годзе ў беларускім войску загінула 67 чалавек. 38 з іх -- салдаты і сяржанты. З агульнага ліку загінуўшых 20 скончылі жыццё самагубствам.

ПАЎТАРА трыльёна рублёў спатрэбіцца, каб ажыццявіць дзяржаўную праграму, якая намячае першачарговыя меры па ўзмацненню барацьбы са злачыннасцю. Праект яе распрацаваны і ўхвалены Міністэрствам унутраных спраў Беларусі. Цяпер хай у Міністэрства фінансаў галава баліць, дзе ўзяць такія грошы.

БЕЛАРУСЬ наведаў мітрапаліт Дамаскін са Швейцарыі, якому падлягае праваслаўная царква ў Заходняй Еўропе. Высокі дастойнік выступіў у Мінску з лекцыямі "Рэлігіі і нацыі ў сучаснай Еўропе" і "Уклад рэлігіі ў будаўніцтва аб'яднанай Еўропы".

31 ГРАМАДЗЯНІН Эфіопіі ў 1991--1992 гадах скончылі Мінскае вышэйшае каманднае вучылішча і не вярнуліся дадому з-за боязі рэпрэсій новага рэжыму. Яны атрымалі статус бежанца ААН і жывуць у 20 пакоях курсанцкага інтэрната, не плацячы за гэта ні капейкі. Справа дайшла да суда.

СТВАРЫЦЬ фільм пра выхадцаў з Монбельяра -- з такой мэтай прыехалі ў Беларусь французскія тэлежурналісты. Нашчадкі Мэтэ, Безансона і Шарп'е ў канцы XVIII -- пачатку XIX стагоддзяў пакінулі Францыю, відаць, з-за рэлігійнага ўціску і пасяліліся ў вёсках Ляскаўка і Курганы цяперашняга Бараўлянскага сельсавета пад Мінскам.

СЯРЭДНЯЙ школе гарадскога пасёлка Сураж спаўняецца 200 год. Яна была заснавана ў 1794 годзе па ўказу імператрыцы Кацярыны II -- тут было адкрыта мужчынскае пачатковае вучылішча. Цяпер Суражская школа славіцца тым, што мае шмат пераможцаў раённых і абласных алімпіяд. Штогод 5--6 яе выпускнікоў паступаюць у ВНУ.

# ”...Я ЧУЮСЯ ЯК БЫЛІНКА Ў ПОЛІ”



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У нацыянальным пытанні БПС-Р адстойвала поўны суверэнітэт і незалежнасць краю. Зацягванне пытання ўтварэння БССР, а потым нечаканае ўтварэнне Літбела паставіла партыю на антыбальшавіцкія пазіцыі. Супрацьстаянне прывяло да таго, што эсэры былі вымушаны перайсці на нелегальнае становішча на савецкай тэрыторыі. Такія абставіны абумовілі асцярожна-зацікаўленыя адносіны БПС-Р да "федэралісцкай праграмы" Ю.Пілсудскага. Але захоп беларускай тэрыторыі і акупацыйны рэжым хутка высветлілі сапраўдныя планы Польшчы адносна Беларусі. Таму ўжо ў сакавіку 1919 года беларускія эсэры ствараюць Беларускі паўстанцкі камітэт як штаб антыпольскай барацьбы, пачынаюць фарміраванне ў тыле польскіх войск партызанскіх атрадаў -- "Сувязі беларускага працоўнага сялянства". БПС-Р імкнулася аб'яднаць у антыпольскай барацьбе і змаганні за незалежнасць Беларусі ўсе палітычныя сілы. Поспехам на гэтым шляху стаў пераход на іх пазіцыі групы сацыялістаў-федэралістаў і такога аўтарытэту беларускага руху, як В.Ластоўскі. Але пераадолець прапольскую арыентацыю кіраўніцтва Рады і ўрада БНР -- Я.Лёсіка і А.Луцкевіча яны не змаглі. У снежні 1919 года эсэры адмяжоўваюцца ад афіцыйнага кіраўніцтва БНР і ўтвараюць Народную Раду як палітычны орган барацьбы за незалежнасць Беларусі.

Роля П.Бадуновай у гэтых падзеях дасканала не высветлена, але ёсць падставы сцвярджаць, што яна была значнай. Разам з П.Крэчэўскім яна ўзначаліла Прэзідыум Народнай Рады, увайшла ў Народны сакратарыят БНР, сфарміраваны В.Ластоўскім. Пасля нелегальнага ад'езду Т.Грыба ў Гродна на Бадунову кладзецца вялікая адказнасць у кіраўніцтве паўстанцкім камітэтам.

Ва ўмовах рэпрэсій польскіх акупацыйных улад і расколу беларускага руху БПС-Р была вымушана перагледзець сваю тактыку і шукаць палітычнага саюзніка. Адзінай партыяй, якая таксама вяла збройную барацьбу з палякамі, былі бальшавікі. Таму, нягледзячы на супярэчнасці праграм, пазіцый у беларускім пытанні, эсэры і бальшавікі аб'ядналі свае сілы ў антыпольскай барацьбе. У снежні 1919 года ў Смаленску адбыліся перамовы прадстаўнікоў БПС-Р і КП Літвы і Беларусі. Было выпрацавана пагадненне аб сумесных дзеяннях. П.Бадунова, магчыма, узначальвала дэлегацыю БПС-Р, таму што яе подпіс на пагадненні стаіць першым.

У выніку аб'яднання сілаў практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі разгарнуўся паўстанцкі рух, аб'яднаны ў Народную ваенную самаабарону. Але блок з бальшавікамі не мог быць доўгім і трывалым. Апошнія ўжо ўзялі курс на аднапартыйнасць і аб'явілі контррэвалюцыянерамі левых эсэраў.

З боку бальшавікоў саюз з БПС-Р насіў выключна тактычны характар -- выкарыстаць іх уплыў і збройныя сілы ў барацьбе з Польшчай. Палітычнага даверу не было, а рост уплыву беларускіх эсэраў і распачатая імі з вясны 1920 года фактычная падрыхтоўка дэмакратычнай дзяржаўнасці Беларусі выклікалі занепакоенасць бальшавіцкага кіраўніцтва.

ЦК КП(б) ЛіБ даў указанне ізаляваць эсэраў. Наспяваў канфлікт, і кіраўніцтва БПС-Р вырашыла "высветліць адносіны" непасрэдна з ЦК Расійскай Камуністычнай партыі бальшавікоў. Гэта адказная і цяжкая місія выпала на долю Бадуновай. Больш месяца дэлегацыя пад яе кіраўніцтвам дамагалася ў Маскве перамоў са Сталіным і Крэсцінскім. На перамовах дэлегацыя адстойвала пазіцыі беларускіх эсэраў аб недапушчальнасці перадачы Польшчы заходняй часткі Беларусі, неабходнасці аднаўлення яе тэрыторыі ў этнаграфічных межах, вяртанне ўсходніх губерняў, перададзеных РСФСР, даводзілася памылковасць фарміравання беларускіх улад з людзей, далёкіх ад беларускага руху, неабходнасць прызнання ўрада Ластоўскага і падтрымкі культурна-нацыянальнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Тым часам Бадунова адстойвала прынцыпы суверэннасці і непадзельнасці тэрыторыі Беларусі і кааліцыі палітычных сілаў у сацыялістычным будаўніцтве. Перамовы ішлі выключна цяжка і скончыліся пацвярджэннем толькі ваеннага саюза, а вырашэнне палітычных пытанняў было адкладзена да вызвалення Беларусі.

"Вырашаны" гэтыя пытанні былі 31 ліпеня 1920 года абвяшчэннем Беларусі ў межах шасці паветаў Мінскай губерні. І каб ізаляваць эсэраў напярэдадні падпісання Рыжскага міру, Надзвычайная камісія арыштавала 860 актывістаў БПС-Р і кіраўніцтва партыі. Асноўную частку пратрымалі да некалькіх тыдняў і адпусцілі пасля папярэджанняў не весці антыбальшавіцкую дзейнасць. П.Бадунову, якую арыштавалі ў Мінску, накіравалі аж у Маскву, дзе ў Навінскай і Бутырскай турмах яна адседзела 6 месяцаў.

Якую "тлумачальную" работу правадзілі з ёю, можна толькі меркаваць. Але вядома, што яна засталася на той жа пазіцыі непрымірымасці да бальшавікоў, не падтрымала гатоўнасці часткі членаў ЦК БПС-Р пайсці на ўступкі аж да ліквідацыі партыі, з тым каб атрымаць месца ва ўрадзе БССР. Таму нам здаецца недакладным паведамленне польскай даследчыцы А.Бергман аб тым, што ў 1922 годзе Бадунова прыязджала ў Вільню агітаваць беларускіх дзеячаў вяртацца ў БССР.

Можна меркаваць, што з 1921 па 1922 год пачынаецца найбольш крытычны перыяд жыцця Палуты Бадуновай, калі яна адчувала рэпрэсіўны ўціск уладаў, з аднаго боку, і ўвесь цяжар драматычнай барацьбы сярод былых паплечнікаў па партыі і беларускаму руху, -- з другога. Бадунова прыкладае намаганні, каб перабрацца за мяжу, дзе знаходзіліся аднадумцы -- В.Ластоўскі, Т.Грыб, К.Дуж-Душэўскі, Я.Мамонька. У пачатку 1923 года без дакументаў, нелегальна яна пераходзіць мяжу з Польшчай. Арыштаваная польскімі ўладамі, тры месяцы праводзіць яна ў турме і яшчэ шэсць — у чаканні літоўскага пашпарта, атрымаць які дапамагаў В.Ластоўскі.

Падчас свайго знаходжання ў Польшчы Бадуновай давялося стаць удзельніцай канфлікту ва ўрадзе БНР. Яна рашуча падтрымала пазіцыю і дзейнасць В.Ластоўскага, а ўтвораны А.Цвікевічам, П.Крэчэўскім, Я.Варонкам урад назвала "самазваным і безадказным". Гэтую думку яна адстойвала на канферэнцыі беларускіх арганізацый у Гданьску ў верасні 1923 года.

Яшчэ не ўсё сказана аб тым, якую згубную для беларускай справы ролю адыграла барацьба паміж асобнымі арганізацыямі і групоўкамі беларускай эміграцыі. Яна знясільвала і без таго нешматлікі асяродак, які не меў дастатковай палітычнай і матэрыяльнай падтрымкі, забірала фізічныя і маральныя сілы, выклікала хваравітыя амбіцыі.

Самым цяжкім чынам гэтая барацьба адбілася на Бадуновай, сілы якой былі надарваныя яшчэ папярэднім змаганнем. У самым канцы 1923 года яна прыязджае ў Прагу. Аб яе стане яскрава сведчыць ліст Марыі Галубянкі да В.Ластоўскага. На пытанне аб Бадуновай яна пісала: "Весткі ці інфармацыя аб П.Бадуновай сумныя. Яна праз 1/2-1 1/2 месяцы... была хворая: гэта манія велічыя, праследавання... Бачыла я яе пасля хваробы і па выхадзе са шпіталя. Выглядае дужа дрэнна, гэта няшчасны, бедны, я б сказала, зламаны разбіты чалавек, якога трэба было б прыгалубіць, прыласкаць, папесціць трэба бы... убаюкаць яе, як калісьці баюкала нас маці родная ў дзяцінстве. Але гэтага яна не мае́ць. І сумна, і цяжка ёй".

Але сітуацыя ў пражскім эміграцкім асяродку таксама не абяцала спакою. Тут таксама існавала некалькі груповак, якія сапернічалі паміж сабой. Бліжэйшы паплечнік Бадуновай Т.Грыб прытрымліваўся левападыкальных пазіцый, уступіў у канфлікт не толькі з былымі апанентамі, але і аднадумцамі, абвінавачваў іх у захапленні палітычнымі гульнямі ў той час, калі патрабавалася карпатлівая культурніцкая праца на будучыню Беларусі. Аб'яднаўшы студэнтаў-беларусаў, перш за ўсё рэвалюцыйна настроеных выхадцаў з Заходняй Беларусі, ён наладзіў выданне часопіса "Веда", прыкладаў намаганні для адкрыцця ў Празе Беларускага педагагічнага інстытута па прыкладу ўкраінскага і расійскага. Бліжэйшымі паплечнікамі Грыба ў гэтай справе сталі Я.Мамонька і І.Дварчанін. Нягледзячы на зацяглую хваробу, уключаецца ў гэту справу і Бадунова. Таксама, як і іншыя эмігранты, яна наведвае лекцыі ў Карлавым універсітэце, вядзе палітычную работу.

Але паразумення і ўзаемападтрымкі з былымі сябрамі не атрымалася. Наадварот, палітычныя і асабістыя прычыны прывялі да разладу і ізаляцыі. Аб драматызме сітуацыі дае ўяўленне ліст П.Бадуновай да В.Ластоўскага і К.Дуж-Душэўскага ў Коўна: "Родныя мае таварышы Вацлаў і Клаўдзій! Я хварэю ўсё цяжэй і цяжэй... высокая тэмпература, я аслабла і саўсім адна. Беларусы, апрача маладзейшага т.Бусла, мяне не даведваюцца. Дый гэта ўжо не ўпершыню. У турмах і на шляхах і ўсюды я адна. Няма маёй сястры, майго ангела-храніцеля, і я чуюся як былінка ў полі. Ноччу жар, цягну руку, і няма каму вады падаць. Мо заўтра перавязуць мяне ў бальніцу. Украінскі доктар Літаў глядзіць за мной... У яго я пакіну ўсе свае лісты і паперы. Хто ведае, што будзе са мной. А памру -- памятайце: некалісь перавязіце мяне ў Менск. Цяпер пішу вам, як наіхутчэй закладвайце Нац.Каміт. і Ластоўскі на чале. Яны тутака ўжо заклалі нейкую Белар. Раду ў Чэхаславакіі. Пераймайце справу ў Літве ў свае ўласныя рукі. Мамонька, Грыб -- ня ведаю, што робляць, я з імі ў нязгодзе..."

Нягледзячы на НЭП і палітыку беларусізацыі, Т.Грыб і яго бліжэйшыя паплечнікі засталіся на антыбальшавіцкіх пазіцыях. Не паверылі яны амністыі ўрада БССР былым дзеячам БНР і запрашэнням вярнуцца для "адбудовы беларускай справы". Рашэнні мінскага з'езда сацыялістаў-рэвалюцыянераў 1924 года аб скасаванні Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і Берлінскай канферэнцыі аб роспуску Рады БНР Грыб расцаніў як здраду. Тым, хто ад'язджаў у Савецкую Беларусь, прадказаў іх будучыню. Але многія паверылі і паехалі -- нават бліжэйшыя сябры і паплечнікі -- Ластоўскі, Жылка.

Паехала праз два гады і непрымірымая да бальшавікоў Палута Бадунова. Аб падставах яе вяртання можна меркаваць, зыходзячы з сітуацыі, якая склалася ў Празе. Варожасці і ізаляцыі яе душа і розум не вытрымлівалі. Спадзяванняў на савецкую ўладу і рэчаіснасць, у адрозненне ад іншых рээмігрантаў, у яе не было. Сваёй непрыхільнасці да камуністычных уладаў не ўтойвала. І самі гэтыя ўлады давалі падставы для такіх адносін. Дакладна невядома, калі менавіта яна з'явілася ў родных мясцінах. Але, па ўспамінах, пасля яе першага ж наведвання сям'і сястры Анастасіі муж сястры і два яе дарослыя сыны былі ўзяты на некалькі дзён на допыты ў АГПУ. Адзінота і ізаляцыя працягваліся і тут. Пастаянную работу знайсці не змагла, перабівалася выпадковымі прыватнымі ўрокамі. Па ўспамінах, працавала над нейкім рукапісам і пісала вершы, але друкаваць іх мясцовыя выданні адмаўляліся. Нават родзічы, сярод якіх яна карысталася і аўтарытэтам, і спачуваннем, не маглі падтрымліваць цесных сувязей: пад пільным вокам АГПУ гэта было вельмі небяспечна. У 1932 годзе Бадунова робіць спробу вырвацца -- звяртаецца ў Міжнародную арганізацыю дапамогі рэвалюцыянерам (руская абрэвіятура -- МОПР) з просьбай аб садзейнічанні ў выездзе за межы СССР. МАДР, які знаходзіўся пад кантролем сталінскага Камінтэрна, адмовіў са спасылкай на тое, што яна не з'яўляецца ахвярай праследу капіталістаў.

Гэта не прыбавіла прыхільнасці да камуністычных уладаў. Асобае абурэнне выклікала калектывізацыя і чэргі за хлебам, якія з'явіліся ў пачатку 30-х гадоў. І сваім знаёмым, і незнаёмым у гэтых чэргах Бадунова называла вінаватых, гаварыла, што камуністы аб рабочых не дбаюць: заняты больш уласным дабрабытам, што ў буржуазнай Чэхаславакіі рабочыя жывуць лепш, чым у камуністычным Савецкім Саюзе. Як пацвярджаюць сведкі, яна не баялася нікога і нічога. Правільна вызначыла Бадунова і палітычную сітуацыю канца 30-х гадоў. Пасля працэсу Тухачэўскага -- Якіра гаварыла, што ў камуністычнай партыі не застаецца іншых апор для існавання, акрамя тэрору, а прыняцце Канстытуцыі перамогшага сацыялізму -- "адвод вачэй цёмнай масе". Гэтыя выказванні і сталі фармальнай падставай для арышту яе 3 верасня 1937 года. У гэты час распачыналася буйнамаштабная аперацыя НКУС па выкрыццю гэтак званай "польскай, нямецкай і латвійскай агентуры" ў БССР. Толькі па польскай агентуры з 25.8.1937 года па 1.1.1938 года было арыштавана больш 21 тысячы чалавек, 468 з якіх з'яўляліся былымі палітэмігрантамі. Як бачым, П.Бадунова аказалася адной з першых у гэтай катэгорыі -- яе мінулае адыграла сваю ролю.

Асуджэнне Бадуновай у 1937 годзе -- яскравая ілюстрацыя да масавых рэпрэсій канца 30-х гадоў. Больш месяца арыштаваная прасядзела ў Гомельскай турме без допыту і нават без абвінавачвання. Першы і апошні допыт адбыўся 11 лістапада. Яго пратакол займае 3 старонкі. Следчых цікавілі асноўныя факты палітычнай дзейнасці Бадуновай больш перыяду грамадзянскай вайны і эміграцыі. Яўнага "палітычнага крыміналу" ў адносінах да савецкай улады і кампартыі ў адказах Бадуновай знайсці нельга. І тым не менш абвінавачвае заключэнне фармулюе наступны вывад з гэтага адзінага допыту: "Пражываючы ў СССР пасля вяртання з Чэхаславакіі, праводзіла антысавецкую агітацыю... злобна выказвалася ў адносінах ВКП(б) і Савецкага ўрада". Асобая Тройка НКУС БССР вынесла па гэтаму абвінавачванню прысуд -- 10 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў.

Але ў ГУЛАГ Палута Бадунова не трапляе. Яе пераводзяць у Мінск, ва ўнутраную турму НКУС, так званую "амерыканку", дзе праз паўгода яна дачакалася новага прысуду, на гэты раз -- смяротнага.

Да гэтага часу вышэйазначаная аперацыя НКУС выйшла на свой другі этап -- была сфабрыкавана справа аб выкрыцці шырокага антысавецкага падполля ў Беларусі, якое склалася ў 1930--1931 гадах з "правых" трацкістаў, нацыянал-фашыстаў, эсэраў, бундаўска-сіянісцкіх арганізацый і царкоўнікаў. Было абвешчана, што на працягу 30-х гадоў падполле займалася дыверсійна-шкодніцкай, шпіёнскай дзейнасцю і рыхтавала антысавецкі паўстанцкі рух.

Адносна Бадуновай было "выкрыта", што па вяртанні з эміграцыі яна разам з былымі аднапартыйцамі: Чарнушкевічам (сакратар ЦВК БССР), Панкевічам (віцэ-прэзідэнт АН БССР) і іншымі -- узначаліла падпольны Цэнтральны Камітэт беларускіх эсэраў. Ніякіх дакументальных ці факталагічных пацвярджэнняў існавання падпольнай эсэраўскай арганізацыі, вядома ж, не было знойдзена. У юрыспрудэнцыі гэтых часоў ужо панавала "царыца доказу" -- уласнае прызнанне падследнага. Якімі сродкамі здабываліся гэтыя прызнанні, сёння добра вядома. Таму не здзіўляюць наступныя "паказанні" Палуты Бадуновай: "...ЦК быў звязаны з замежнымі цэнтрамі эсэраў... Яго платформа: адрыў Беларусі ад СССР пад лозунгам стварэння БНР, з урадам, які ўзначалілі б беларускія эсэры, беларускія нацыяналісты і палякі. Праводзіць барацьбу ў СССР у здзяйсненне гэтай ідэі ўсімі мерамі за захват улады, прызнаючы інтэрвенцыю, шпіянаж і тэрор".

Аб тым, што канец яе жыцця быў пасапраўднаму страшны, сведчаць дзве апошнія даты са следчай справы: прыгавор аб смяротным пакаранні вынесены 25 мая, а прыведзены ў выкананне толькі 29 лістапада 1938 года.

Такога перапынку ў тэрмінах па правілах тых часоў не павінна было быць. Пасля забойства С.Кірава ў снежні 1934 года смяротныя прыгаворы выконваліся неадкладна. Але вядома, што падчас "распрацоўкі" справы аб антысавецкім падполлі на Беларусі распараджэннем наркома НКУС БССР Наседкіна была ўтворана сакрэтная (нават ад НКУС СССР) спецкалонія, куды змяшчалі найбольш "каштоўных" для следства вязняў, у тым ліку і смертнікаў. Знаходжанне там азначала суцэльную пакуту, таму што афіцыйна гэтых людзей ужо не існавала, таксама, як і нейкай адказнасці за іх. Калі ж у сярэдзіне лістапада 1938 года выйшла забарона на выкананне прысудаў у сувязі з пераглядам яжоўскіх "злоўжыванняў", беларускія энкавэдзісты спалохаліся выкрыцця мясцовай самадзейнасці са спецкалоніяй і за два тыдні расстралялі ўсіх вязняў. Дата смерці Бадуновай дае падставы меркаваць, што Палута Бадунова закончыла свой жыццёвы шлях якраз у гэтай калоніі.

**Валянціна ЛЕБЕДЗЕВА.**



*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# Антон ЛУЦКЕВІЧ: ФІЛАСОФІЯ І ЭСТЭТЫКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

**Працяг. Пачатак у № 10 — 12.**

За семдзесят дзён да літаратурнай дыскусіі А.Луцкевіч апублікаваў у "Нашай ніве" рэцэнзію на паэтычны зборнік Янкі Купалы "Шляхам жыцця" (1913, 26 крас.). Крытык звярнуў увагу на эстэтычнае абнаўленне паэзіі Купалы, аўтара пекных, шчырых, з размахам напісаных твораў, дзе, як у люстэрку, адкрываецца беларуская народная душа. "Але, -- адзначыў Луцкевіч, -- ужо нейкая новая сіла пачала разварачываць той стары лад, пры каторым дыхаць нельга. Хваля чыстага, свежага паветра пракацілася па ўсёй старане. Народ будзіцца ад сну (...). І вось у вершах Купалы ўсё часцей -- поруч з сумнымі настроямі -- звініць нотка бойкая, жывая; відаць, што сіла ірвецца да дзела, да вялікай працы народнай. Чуваць радасць жыцця -- радасць, каторая абыймае душу здаровага, сільнага чалавека".

Тут упершыню заявіў пра сябе А. Луцкевіч як крытык-аналітык, які ўмее прадбачыць перспектыву жывога літаратурнага працэсу. Раней у "Нашай ніве" літаратурныя матывы закраналіся ім толькі ў кантэксце нацыянальна-адраджэнскай тэматыкі. Так, у рэцэнзіі на "Кароткую гісторыю Беларусі" В. Ластоўскага ("Наша ніва", 1910, 23 верас.) Луцкевіч пісаў пра духоўную каштоўнасць нацыянальнай мінуўшчыны. У іншых артыкулах ён казаў, што развіццё роднай мовы, прыгожага пісьменства і мастацтва ёсць абавязак нацыі, якая хоча ўвайсці ў сусветнае супольства культурных народаў. Успомніў ён пра красу і народалюбства польскай пясняркі Марыі Канапніцкай.

Луцкевічу належыць першая і даволі смелая ў "народніцкім" асяроддзі спроба разгадаць сакрэт Багдановічавай паэзіі. Маю на ўвазе яго рэцэнзію на зборнік "Вянок" пад назваю "Пясняр чыстай красы" ("Наша ніва", 1914, 21 лют.). "Вянок", -- пісаў крытык, -- гэта праўдзівае пэрла ў беларускай паэзіі. Раўнаваць Багдановіча ні з кім не будзем: не затым, што няма лепшых за яго паэтаў (бо такія ёсць), але затым, што ён ні на каго не падобны. Яго душа замкнёная ў сябе, жыве ў нейкім іншым, асаблівым свеце -- у свеце чыстай красы і шчырай паэзіі, ды толькі праз яе глядзіць на нашае жыццё -- рэальнае, цяжкае, поўнае змагання і безупыннай працы. І як у летні гарачы дзень у крыштальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца нашае цела, так асвяжае душу паэзія М. Багдановіча".

Так, здаецца, яшчэ ніхто не пісаў у беларускай крытыцы да Луцкевіча. Следам за М. Багдановічам ён дазволіў сабе адкрыць акно ў зачараванае царства красы. А яшчэ першым заўважыў музыкальнасць вершаў "Вянка", прачытаць які, на яго думку, па-сапраўднаму зможа толькі той, "хто разумее музыку слова, чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі". Адзначыўшы, што паэт шчыра любіць сваю бацькаўшчыну, свой народ, спачувае ягоным бедам, крытык далей сказаў: "Але не грамадскія тэмы займаюць галоўным чынам паэта: ён перш за ўсё шукае чыстае красы і ў той дзяўчынцы васьмілетняй, што, нахіліўшыся з трывогаю над плачучым брацікам, выяўляе песняру тайны Мадонны ("Мадонна"), і ў народнай веры ў лесуноў і русалак ды вадзянікоў ("У зачарованым царстве"), і ў абразах роднай прыроды, і ў старонках мінуўшчыны ("Старая Беларусь")".

У адказ на гэтую рэцэнзію М. Багдановіч паслаў А. Луцкевічу экземпляр "Вянка" з паэтычным прысвячэннем:

**Дзень добры, Пане!**
**Вось Вам просты надпіс:**
**Ёсць гэткая японская забаўка:**
**Кідаюць дробныя**
**асклёпкі дрэва**
**У ваду --**
**і робяцца яны цвятамі.**
**Усё гэта**
**мне згадалася мімаволі,**
**Калі чытаў я Вашу стаццю**
**Аб вершыках "Вянка".**
**І шлю падзяку**
**І цісну руку.**
**Ваш М. Багдановіч.**

Каментар тут, здаецца, не патрэбны. Пасля рэцэнзіі А. Луцкевіча і салідарнасці з ім паэта погляд на "чыстую красу" як на дэкадэнцтва, здаецца, павінен быў бы адысці на абочыну беларускай эстэтыкі як анахранізм. Праўда, гэтая рэцэнзія, як і ўсякі іншы пераклад паэзіі на мову прозы, крыху схематычная. Бо ў паняцці "чыстай красы" ўсё ж такі прыхавана палярызацыя быцця і мастацтва. Максім Багдановіч думаў інакш -- і меў рацыю. У праграмных вершах на тэму красы і мастацтва ("Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы...", "Ціхія мае ўсе песні, цёмныя, як вугаль чорны..." і інш.) ён тлумачыў іх праз паэтычныя прытчы: краса і мастацтва -- гэта фрагменты "грубага жыцця", якія ў "сілавым полі" духоўнага напружання пераўтвараюцца ў жэмчуг і дыяменты. А. Луцкевіч спачатку ўбачыў толькі адзін бок Багдановічавага "Вянка": яго красу -- "крыштальна чыстую крыніцу". У поле зроку крытыка не папалі іншыя эстэтычныя катэгорыі паэта -- трагічнае і ўзнёслае. Адсюль недакладная выснова, быццам бы "не грамадскія інтарэсы занімалі галоўным чынам паэта", а пошукі чыстай красы. А між тым, у Багдановіча краса і грамадскія інтарэсы заўсёды згарманізаваныя ў паэтычнай цэласнасці. Наш паэт "чыстай красы" заставаўся беларускім адраджэнцам вытанчанага кшталту.

Пазней, у нарысе "Максім Багдановіч" ("Гоман", 1917, 12 чэрв.), які ўвайшоў у першую беларускую кніжку літаратурна-крытычных артыкулаў (Навіна А. "Нашы песняры". -- Вільня, 1918), крытык зрабіў пэўныя карэктывы ў свае ацэнкі творчасці паэта, звярнуў увагу на гарманічнасць ягонай душы, на адкрыццё ім агульналюдскіх духоўна-эстэтычных каштоўнасцей у вобразах роднага краю, адсутнасць паэтычна не перажытых тэндэнцый.

Пасля падзелу Беларусі паміж Расіяй і Польшчай паводле Рыжскага міру (1921) А. Луцкевіч, здаецца, зразумеў: ні Усход, ні Захад не прызнаюць права Беларусі на палітычнае самавызначэнне. Спатрэбіліся яшчэ вялікія крызісы, каб убачыць у беларусах гістарычную нацыю з шматвяковай культурай, зразумець геапалітычнае значэнне Беларусі і Украіны для міжнароднай стабільнасці ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Антон Луцкевіч адходзіць ад прадстаўнічай палітычнай дзейнасці, засяроджваецца на творчасці грамадскай, літаратурнай і сацыяльна-філасофскай. Разам з І. Канчэўскім (да ягонай ранняй смерці 21 красавіка 1923 года), У. Самойлам, А. Станкевічам, іншымі беларускімі інтэлектуаламі ён фарміруе заходнебеларускую школу палітычнай, сацыяльна-філасофскай і літаратурна-эстэтычнай думкі, рыхтуе Беларусь да новага зорнага часу. Ён узначальвае Беларускае Навуковае Таварыства -- своеасаблівую грамадскую акадэмію Заходняй Беларусі. Ён парадкуе Беларускі музей імя свайго брата Івана, становіцца дырэктарам гэтага цэнтра нацыянальнай культуры. Урэшце, у 1922 годзе ў якасці старшыні Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта ён распрацоўвае праграму і тактыку беларусаў на выбарах у польскі Сойм і Сенат. Адзінства беларускіх партый дало першы поспех: яны атрымалі 11 мандатаў у Сойм і 3 -- у Сенат.

Яшчэ ў гады "Нашай нівы" і "Гоману" А. Луцкевіч звяртаецца да гісторыі беларускай палітычнай і літаратурнай думкі, публікуе брашуру "На дарозе да новага жыцця" (1912), артыкул "10-летні юбілей беларускай прэсы" (1916), артыкул-некралог "Аляксандр Ельскі" (1916), ужо названую кнігу "Нашы песняры" (1918). Яго нарыс "Пуцяводныя ідэі беларускай літаратуры" (1921) -- свайго роду магістраль да "нашаніўскага" этапу беларускай літаратурнай думкі. А. Луцкевіч прапанаваў першую гісторыка-тыпалагічную класіфікацыю нашай літаратуры, выдзеліў у ёй тры асноўныя этапы. Старабеларуская пісьменнасць, на яго думку, аджыла свой век -- прайшла сваю пару станаўлення, росквіту (эпоха Ф. Скарыны і Статута Літоўскага) і спаду ў канцы XVII--XVIII стагоддзяў. Апрача пазалітаратурных прычын яе заняпаду -- сацыяльна-палітычных, рэлігійных і іншых была і прычына ўнутраная: яна, на думку А. Луцкевіча, у супярэчнасці паміж царкоўнаславянскім субстратам кніжнай старабеларускай мовы, празмернымі ўплывамі на яе з боку польскай, лацінскай і інш. чужых гаворак, з аднаго боку, і мовай народнай, здольнай да арганічнага развіцця, з другога боку. Зазначым тут, што "нашаніўскія" асветнікі недаацэньвалі значэнне хрысціянскай рэлігіі і старабеларускай культуры ў нацыянальным адраджэнні.

Новае, уласна нацыянальнае культурнае адраджэнне, на думку Луцкевіча, пачалося з развіцця народнай гутаркі ў літаратурную мову. Спачатку гэта былі толькі літаратурныя фрагменты (інтэрмедыі ў школьным тэатры XVIII стагоддзя). Пазней пачалося станаўленне новай літаратуры ў духоўным кантэксце польска-беларускага шляхецкага рамантызму. Пісьменнікаў гэтага этапу, вядомых у нашай літаратуры пад ганаровым імем яе пачынальнікаў (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.), "нашаніўская" крытыка недаацэньвала. На думку Луцкевіча, іх ідэя гармоніі сялянства і шляхецтва не здолела запаліць у душы народнай "святой іскры, каторая падняла бы яго (народ. -- **Ул. К.**) да новага, вольнага і свядомага жыцця". Водгулле шляхецкай літаратурнай плыні захавалася і ў наступным, XX стагоддзі (у творах Ядвігіна Ш., А. Ельскага, А. Паўловіча), але яно вычарпала сябе ўжо ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча.

Зноў жа сёння відавочна: А. Луцкевіч, сам шляхціц, які стаў сацыял-дэмакратам, занадта строгі да шляхецка-рамантычнай літаратуры.

Прадвеснікам уласна нацыянальнай, народнай літаратуры, на яго думку, былі сялянскі сын Паўлюк Багрым і шляхецкі паўстанец Кастусь Каліноўскі, які перайшоў у лагер сялянства. Але першым нацыянальным пісьменнікам, які ўсвядоміў беларускую культурную традыцыю ў яе гістарычнай глыбіні, абвясціў беларускую мову, у якой раней бачылі толькі народную "гаворку", агульнанацыянальнай і роўнай іншым мовам, быў Францішак Багушэвіч. Праўда, казаў Луцкевіч, Багушэвіч, як і Каліноўскі, прыйшлі ў народ звонку, з асяроддзя шляхецкага радыкальнага народніцтва. Толькі ў паэзіі Цёткі, Купалы і Коласа, іншых пісьменнікаў-нашаніўцаў на ўсю моц абвясціў пра сябе шматмільённы мужыцкі "найдэмакратычнейшы ў свеце", паводле Луцкевіча, народ. Адсюль, на яго думку, перспектыва на практычнае вырашэнне беларускай нацыянальнай ідэі залежыць ад творча-духоўнага самавыяўлення працоўнага народа. Гэткая гіпотэза легла ў аснову ідэалогіі спецыфічна беларускага, сялянска-работніцкага сацыялізму (БСГ, БСДП і інш.).

У 1923 годзе адбыўся нейкі паварот у светапоглядзе А. Луцкевіча. Беластоцкі судовы працэс над 45 беларусамі паказаў, што польскі ўрад не дапускае нават самой ідэі суверэнай ці хоць бы аўтаномнай Беларусі. У зборніку Беларускага Навуковага Таварыства "Заходняя Беларусь" (1923) Луцкевіч друкуе свой артыкул "Крызіс ідэі ці крызіс грамадзянства?", дзе даказвае, што крызіс беларускай ідэі выкліканы трыма фактарамі: абыякавасцю Еўропы да беларускай нацыянальнай праблемы, выступленнем на гістарычную арэну новай і невядомай сілы -- бальшавізму, урэшце, стратай беларусамі свайго спрадвечнага культурнага ды палітычнага цэнтра -- Вільні. Але гэты крызіс -- не доказ безнадзейнасці незалежніцкай ідэі. Неабходна толькі ў новых умовах мяняць тактыку -- сведчыць у Польскім Сойме і Сенаце, што Беларусь жыве і змагаецца, дабівацца нацыянальнай адукацыі, культурна-нацыянальнай аўтаноміі, хаваючы глыбока ў сэрцы "высокі незалежніцкі ідэал".

У артыкуле "Памяці Ігната Канчэўскага" ("Новае жыццё", 1923, 27 крас.) А. Луцкевіч узнёсла пісаў пра аднаго з самых ахвярных апосталаў беларускай ідэі, які ў сваім філасофскім эсэ "Адвечным шляхам" (1921) прарочыў Беларусі самабытны шлях у будучыню: "Быццам дыямент цудоўны, дзіўным хараством гарэла Яго душа сярод жыццёвага бруду, маны, крывадушнасці. Жыў дзеля вялікага ідэалу вызвалення свайго народу ад духоўнага, палітычнага і эканамічнага рабства. Але ў кожным выяўленні яго працы перш за ўсё відаць было гарачае ўмілаванне чалавека. І чалавека ён хацеў вызваліць у беларусе (...). Нацыянальная ідэя ўсё ярчэйшым полымем разгаралася ў душы Канчэўскага".

Незалежніцкім ідэалам і "нашаніўскаму" народніцтву А. Луцкевіч заставаўся верным да сваёй пакутніцкай смерці ў бальшавіцкім ГУЛАГу. А ў яго літаратурна-эстэтычных даследаваннях 20-х гадоў пазначаюцца прыкметы заходнебеларускага "ўзвышэнства" (ад літаратурна-мастацкага згуртавання ў БССР "Узвышша"): арыентацыя на класіку, аўтэнтычны фальклор, наватарства, цікавасць да філасофіі, сацыялогіі і эстэтыкі мастацтва. Для зборніка "Якуб Колас у літаратурнай крытыцы" (1926), які выйшаў у Мінску да 20-годдзя творчай дзейнасці паэта, А. Луцкевіч напісаў артыкул "Сымон-музыка". Крытык зацікавіўся праблемай станаўлення мастацкіх талентаў у сялянскай, "мужыцкай" Беларусі. У 1927 годзе віленскае выдавецтва Б. Клёцкіна перавыдала "Вянок" М. Багдановіча з прадмовай А. Луцкевіча. Тут узнаўляецца ранейшая канцэпцыя "паэта чыстай красы", які любіць "паўтоны ў фарбах, гуках, у перажываннях". Але ёсць і папраўкі да ранейшых уяўленняў пра "агульначалавечнасць" паэзіі "Вянка". Паэт, кажа крытык, шукае і знаходзіць вечную красу ў родным краі і сваімі паэтычнымі адкрыццямі "ўводзіць нас у сям'ю культурных народаў з большай пэўнасцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта".

Яго кніжка лекцый і артыкулаў "Адбітае жыццё" (Вільня, 1929) магла б стаць сапраўдным адкрыццём беларускай літаратуры для еўрапейскага чытача, каб у свой час яе пераклалі на французскую, нямецкую ці англійскую мову. Тут крытык паспрабаваў развіць тую плынь літаратурна-эстэтычнай думкі, якую гвалтоўна спынілі рэпрэсіі супраць "Узвышша": хацеў "упісаць" нашу літаратуру ў кантэкст агульнаеўрапейскай эстэтыкі і мастацкай культуры. У кніжку ўвайшлі два эстэтычныя нарысы: "Істота літаратуры і яе грамадскае значэнне" і "Праблема красы і мастацтва ў творах Максіма Багдановіча".

**Уладзімір КОНАН.**

## МІГРАНТЫ, БЕЖАНЦЫ: ШТО РАБІЦЬ?

# ДАВАЙЦЕ БУДАВАЦЬ ВЯТРАК

ЗНОЎ наша газета звяртаецца да тэмы міграцыі і бежанцаў, напэўна, таму, што само жыццё не дае забыцца пра гэтыя пытанні. Сведчанне таму — семінар па падрыхтоўцы кадраў для работы з бежанцамі, што праходзіў у сярэдзіне сакавіка пад эгідай ААН у Мінску. Правядзенне семінара ў Беларусі забяспечваў нядаўна створаны ў рэспубліцы грамадскі фонд "Міграцыя". Яго кіраўнік Аляксандр Будзілоўскі, адказваючы на пытанні вашага карэспандэнта, зазначыў, што асноўнай мэтай семінара з'яўляецца практычнае навучанне мясцовых міграцыйных службаў тэхналогіі працэдур працы з мігрантамі і бежанцамі, перадача вопыту, назапашанага адпаведнымі сусветнымі ўстановамі за доўгія гады.

Пасля Мінска ўдзельнікі семінара адправяцца на Украіну, потым у Грузію, такім чынам, замежныя спецыялісты збіраюцца наведаць самыя "гарачыя" кропкі былога Савецкага Саюза. Што ж, яны маюць рацыю, бо ім больш выгадна зараз перадаць нам свой вопыт і навучаць тут спецыялістаў-прафесіяналаў, чым потым на тэрыторыях сваіх краін вырашаць праблемы, выкліканыя некантраляванымі патокамі, бежанцаў з нашых рэспублік.

У рабоце семінара прымаў удзел старшыня кааліцыйнай камісіі па справах бежанцаў у Францыі Жан-Жак дэ Брэсон. Вельмі добры спецыяліст сваёй справы, які працяглы час працаваў юрыдычным саветнікам генерала дэ Голя, узнагароджаны за свае заслугі перад радзімай ордэнам Ганаровага Легіёна, ён з прыемнасцю адказаў на нашы пытанні.

-- Кожная еўрапейская краіна мае ўласныя праблемы ў міграцыйных працэсах. Як мне падаецца, найбольш значныя для Беларусі з'яўляюцца праблемы палітычных бежанцаў, а таксама праблема прыёму этнічных беларусаў, якія некалі пакінулі радзіму і зараз хочуць вярнуцца назад. І вось тут вельмі важна вызначыцца, як вы маеце да іх ставіцца -- як да грамадзян сваёй краіны ці як да палітычных бежанцаў. Лічу, што вопыт еўрапейскіх краін, якія ўжо сутыкаліся з гэтай праблемай, можа вам дапамагчы.

-- А як у Францыі ставяцца да суайчыннікаў, што доўгі час жывуць за межамі краіны? -- запыталася я.

-- Мы лічым, што любы француз, які жыве ў іншых краінах, калі ён не парываў нацыянальных сувязяў (а для гэтага трэба толькі заўсёды рэгістраваць усе дакументы ў мясцовым французскім пасольстве ці консульстве) і жадае быць французам, можа ў любы момант вярнуцца ў Францыю як грамадзянін гэтай краіны.

Пасля заканчэння семінара давялося пагаварыць з намеснікам дырэктара дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Белазорам. Ён паведаміў, што міграцыйнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь зараз знаходзіцца ў камісіі Вярхоўнага Савета і будзе вынесена на разгляд на вясновай сесіі парламента. Так што ёсць надзея ў рэшце рэшт атрымаць дакумент, які дасць магчымасць рэгуляваць "хвалі" бежанцаў, што накатваюцца на рэспубліку пасля чарговага канфлікту ў Сярэдняй Азіі, Закаўказзі ці Малдове. Але ж нават самы лепшы закон можа гарантаваць парадак толькі ў краіне, дзе жывуць законапаслухмяныя грамадзяне, якія паважаюць прававыя нормы, у краіне з больш-менш устойлівай палітычнай і эканамічнай сітуацыяй. Сённяшняе становішча ў Беларусі і суседніх рэспубліках дае ўсе падставы меркаваць, што нават самае дасканалае заканадаўства не зможа абмежаваць уезд у краіну непажаданых гасцей. Аднак можа не варта разглядаць гэты працэс як бедства ці навалу, а лепш паглядзець на яго з іншага боку? Напрыклад, не абмяжоўваць, а наадварот, стымуляваць уезд у рэспубліку новых грамадзян. Навошта? Сёння ў 80 са 140 раёнаў Беларусі спыніўся прырост насельніцтва, там памірае людзей больш, чым нараджаецца. Зараз, калі ідзе спад вытворчасці і скарачэнне працоўных месцаў, мы можам гэтага нават і не заўважыць. Але калі ўзровень жыцця будзе падаць і далей, працягваць скарачацца нараджальнасць, ці не апынёмся мы ў становішчы, што некаму будзе завяршаць распачатыя рэформы? Да таго ж, любое скарачэнне нараджальнасці нагадвае аб сабе праз некалькі пакаленняў недахопам працоўных рук. Дык можа варта, каб пазбегнуць у будучыні такіх складанасцяў, ужо сёння рэгуляваць і фарміраваць міграцыйную палітыку з улікам гэтых працэсаў? Тым больш, што выйсце -- побач. Шмат этнічных беларусаў, добрых прафесіяналаў, маладых, здаровых людзей, марыць вярнуцца дамоў з рэгіёнаў, дзе па розных прычынах жыццё для іх стала невыносным. Мы абураемся, што нашых кваліфікаваных спецыялістаў пераманьваюць на працу замежныя фірмы і інстытуты, і не робім нічога, каб выкарыстаць інтэлектуальны і фізічны патэнцыял нашых суайчыннікаў, якія імкнуцца вярнуцца на Беларусь. Найкваліфікаванейшыя спецыялісты, прыняць якіх палічыла б за гонар любая краіна свету, не патрабуюць ні зарплаты ў доларах, ні асаблівых умоў жыцця ці працы.

Некалі Мао Цзэ-Дун сказаў: калі падымаецца моцны вецер, дурны ставіць шчыт, а мудры будуе вятрак. Кім апынёмся ў гэтай сітуацыі мы? Першы камень у фундамент будучага ветрака заклаў грамадскі фонд "Міграцыя" Рэспублікі Беларусь, там распрацоўваюць праграмы па сувязях з беларусамі, што жывуць у рэспубліках былога СССР, праграмы па навучанню моладзі беларускай дыяспары ў рэспубліканскіх вышэйшых навучальных установах, а таксама па размяшчэнню этнічных беларусаў на тэрыторыі рэспублікі. Вельмі хочацца спадзявацца на поспех гэтай службы, бо вецер становіцца ўсё больш моцны, а сіл трымаць шчыт ужо амаль што няма...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ВА УНІВЕРСІТЭТА — ЮБІЛЕЙ



**Трыццацігоддзе адзначае ў гэтыя дні Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Нашым чытачам гэта навуковая ўстанова больш вядомая як радыётэхнічны інстытут. Статус жа універсітэта яна атрымала зусім нядаўна.**

Інстытут быў створаны ў 1964 годзе на базе радыётэхнічнага факультэта БПІ. Адбылося гэта тады, калі ў тагачаснай БССР стала бурна развівацца радыётэлевізійная і асабліва вылічальная прамысловасць. Толькі ў Мінску былі пабудаваны заводы "Гарызонт" па выпуску тэлевізараў, вылічальнай тэхнікі -- па выпуску ЭВМ, ВА "Інтэграл" -- па выпуску электронных прыбораў. Аналагічная вытворчасць стала развівацца яшчэ ў Віцебску, Гродне, іншых гарадах.



Асабліва адзначым выпуск ЭВМ. Мінск з пачатку шасцідзесятых гадоў ператварыўся ў моцны цэнтр краін СЭУ па вытворчасці вылічальных машын, якія шырока скарыстоўваліся як у народнай гаспадарцы, так і для ваенных мэт.

Разам з заводамі ці непасрэдна пры іх выраслі канструктарскія бюро і даследчыя ўстановы. Для іх патрэбны былі кадры. І універсітэт (так ён называецца цяпер) з гэтай задачай справіўся паспяхова. За трыццаць гадоў тут падрыхтавана больш за 25 тысяч інжынераў, 560 кандыдатаў і 27 дактароў навук абаранілі дысертацыі. Сярод вучоных найбольш вядомы член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь В.Лабуноў. Яго работы не маюць аналагаў у сусветнай практыцы.

Сёння ва універсітэце вучыцца 7 500 студэнтаў. Гэта сучасная вышэйшая навучальная ўстанова, аснашчаная унікальным тэхналагічным абсталяваннем і найноўшымі персанальнымі ЭВМ рознага класа, якіх тут каля тысячы. Яны шырока выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе. Выкладчыкі і інжынеры універсітэта ўносяць свой уклад у распрацоўку і ўкараненне новых камп'ютэрных тэхналогій.

Навучальны працэс ва універсітэце стаіць на парозе якасна новага выкарыстання вылічальных машын, а менавіта — стварэння адзінай інфармацыйнай сеткі універсітэта, якая прадугледжвае абмен навуковымі праграмамі паміж кафедрамі праз каардынацыйны цэнтр інфармацыйных тэхналогій. Цяпер ужо ідзе доследная эксплуатацыя такой сеткі, адпрацоўваецца яе праграмнае забеспячэнне. Праз сістэму RELKOM універсітэт мае магчымасць атрымаць інфармацыю з-за рубяжа аб апошніх распрацоўках у аналагічных ВНУ.

Да новых методык адносіцца і так званае дыстанцыйнае навучанне. Падпісана пагадненне з Маскоўскім інстытутам электроннага машынабудавання аб тым, што студэнты універсітэта з дапамогай сувязі праз камп'ютэры дзвюх ВНУ будуць адпрацоўваць матэрыял па адной з дысцыплін навучальнага плана, здаваць залікі і экзамены без непасрэднага кантакту з выкладчыкам. Такія тэхналогіі навучання шырока прымяняюцца на Захадзе, маецца таксама еўрапейская праграма ўключэння ў гэтую сетку і Рэспублікі Беларусь.

НА ЗДЫМКАХ: у лабараторыі мікраэлектронікі. Прафесар кафедры мікраэлектронікі Барыс КАЛАСНІЦЫН са студэнтамі трэцяга курса Аляксеем ЮХОВІЧАМ і Андрэем ПАСКРОБКАМ; за адладкай сістэмы мадэліравання робататэхнічнага комплексаў (злева направа) дацэнты кафедры аўтаматыкі і тэлемеханікі Фёдар ФУРМАН, Яўгеній КУКАРЭКА і аспірант кафедры Андрэй СІДАРАЎ.

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.*

## ЗАМЕЖНЫМ ПАДПІСЧЫКАМ!

# ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

Падпіска ў замежжы на беларускія выданні так і застаецца праблематычнай. Час ад часу ўзнікаюць цяжкасці з рассылкай "Голасу Радзімы" і тых выданняў, што дасылае да вас ЗБС "Бацькаўшчына".

Прыватная фірма праз "Голас Радзімы" вывучае попыт на падпіску і прапануе наступныя паслугі:

-- рассылка ўсіх беларускіх выданняў, уключаючы газеты, часопісы, асобныя кнігі, а таксама некаторыя выданні краін СНД;

-- размяшчэнне рэкламы замежных прадпрыемстваў у беларускіх выданнях;

-- прымае заказы на аўдыё- і відэазапісы беларускіх фальклорных і іншых калектываў, а таксама на дакументальныя фільмы аб гістарычнай спадчыне Беларусі на відэастужках;

-- дасылае фотаздымкі або каталогі ўзораў народнай творчасці (вышыванкі, вырабы з саломкі, скуры, дрэва і г.д.).

Было б мэтазгодна працаваць праз прадстаўнікоў фірмы ў краінах вашага пражывання, ад якіх вы можаце даведацца аб усіх умовах падпіскі. Зараз ідуць перамовы з нашымі суайчыннікамі з ЗША і Аўстраліі (іх каардынаты будуць надрукаваны ў бліжэйшы час).

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх жадаючых далучыцца да прапанаванай справы (асабліва ў краінах Еўропы).

Будзем удзячны за ўсе прапановы і пажаданні.

**Свае каардынаты накіроўвайце на адрас рэдакцыі з паметкай "Падпіска" або па факсу (0172) 434785. Па ўсіх пытаннях тэлефануйце: (0172) 33-03-15; (0172) 43-45-73.**

У сёньняшнім нумары "Голасу Радзімы" і некалькіх наступных мы зьмяшчаем асобныя раздзелы з аўтабіяграфічнай паэмы Уладзіміра Клішэвіча "Васіль Каліна", выдадзенай у Лондане ў 1965 годзе. Дзеянне ў творы пачынаецца з дарэвалюцыйных часоў і заканчваецца перыядам сталінскіх рэпрэсій. Згадваецца ў паэме і другая сусветная вайна, якая прынесла гора і разбурэнні на нашу зямлю.

**Уладзімір КЛІШЭВІЧ**

# ВАСІЛЬ КАЛІНА

## РАЗЬДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

На поўдні Случчыны багатай,
Сярод палёў і сьпелых ніў,
Дзе клён шумеў
над беднай хатай, --
Васіль Каліна ціха жыў.
Там дзед яго пражыў жыцьцё
І адыйшоў у нябыцьцё.
Ды толькі помнік --
крыж пахілы --
Жыцьцю дзядоў і
іхным мукам
Стаяў адзін,
як сьведка ўнукам,
Ускрай зарослае магілы.

### II

З удумным выглядам
глыбокім,
Калі тануў у цемень дзень,
На крыж пахілы, адзінокі,
Зьяўлялася старога цень.
Чакала доўга там яна
У задуменнасьці адна,
Агнём вачэй чагось шукала.
Як толькі пеўні сярод ночы
Крыламі шумна залапочуць,
Пачнуць сьпяваць --
здань прападала.

### III

Васіль аб цені думаў многа:
Чаму ўначы выходзіць дзед
Ды з таямнічаю трывогай
Заўжды глядзіць на
гэты сьвет!
Ці гэта была помста, гнеў,
Якімі дзед заўжды гарэў!
Разгублены у паняверцы,
Ён поўны нейкай
цяжкай злосьці
Да ўнукаў ходзіць
часта ў госьці
З балючай крыўдаю
на сэрцы.

### IV

Ніхто таемных дум ня ведаў,
І зразумець ніхто ня мог
Нямую здань старога дзеда,
Напрамкі дзедавых дарог.
Пайдзі, паспрабуй разьбяры,
Аб чым мяркуе дзед стары!
Адно, як выйдзе ён і гляне
На сьвет жывых расчаравана,
Яшчэ ярчэй пылала рана,
Яшчэ цямней шляхі
ў тумане...

### V

Не разгадалі думак дзеда.
Пры свеце яркіх ноччу зор
Васіль сакрэту ня уведаў,
Бо дзед з мінуласьцю памёр.
А ты, стары збуцьвелы крыж,
У думках хлопца не стаіш.
Узімку толькі, ў часе буры,
Калі шумелі доўга днямі
Вятры халоднымі сьнягамі,
Далёка нёсься
сьвіст пануры.

### VI

Яшчэ я казку сёньня тую,
Што маці гаварыла нам,
Ад слова ў слова памятую,
А зараз я дзіўлюся сам,
Як памяць здраджвае мая
Аб чым учора слухаў я.
Аб чым казала маці дзецям,
Таго ніколі не забуду:
Насіць заўжды у сэрцы буду,
Пакуль я буду жыць на сьвеце.

### VII

І Васілю ў душу запала
І песьня сумная палёў,
І казак прошласьці нямала,
І крык увосень жураўлёў.
Усё ён роднае любіў
Сярод жытнёвых сьпелых ніў.
У сэрца крыж запаў малому,
Да крыжу ціхая дарога
І вечна сумная трывога,
Незразумелая нікому.

### VIII

Гады юнацтва! Як вас шкода,
Няхай-бы вы прышлі назад!
Жыцьцёвай сьцюжы
непагода --
Уласны толькі недагляд.
А колькі гора! Які зьдзек
Цярпіць на сьвеце чалавек!
Няма народжанаму волі,
Кідаюць іх штодзённа хвалі,
Ня раз жывыя праклінаді
Дзень нараджэньня
мімаволі.

### IX

Васіль, я цешуся табою!
Шчасьлівы ты яшчэ такі,
Як бястурботнаю рукою
Зьбіраеш кветкі -- васількі.
Ты кветкі радасьці ірвеш
З зялёных стужак
родных меж.
Я ўсё-б аддаў вясне і маю,
Таму, хто ўсё
ад сну прабудзіць.
Ня дай ты, Бог, якімі людзі
На сьвеце страшнымі
бываюць!

### X

Каб ведаў ты, які сустрэне
Цябе, хлапец, суровы лёс
З гадзінай чорных сутарэньняў,
На тэй зямлі, дзе змалку рос,
Дзе шчыра так любіў кругом
Мароз зімы і летні гром!
Усё, Васіль, перад табою
Праходзіць, быццам
на экране:
Ці сонца раніцаю гляне,
Ці зорка познаю парою.

### XI

Тваё ня раз умела вуха
Лавіць размову ніцых лоз,
Народу болечы падслухаць,
А гора просіць толькі сьлёз.
Ты там пазнаў бяду і сьмех,
Красу жыцьця і цяжкі грэх,
Хлусьню, што
топчацца вякамі,
Дзе пазнаёміўся з законам,
Хоць не казаў аб ім ніхто нам,
Што шлях жыцьця такі
прад намі.

### XII

Адказ на многа запытаньняў
Васіль ня мог ужо знайсьці.
Бяда, што толькі адчуваньняў
Ня меў ён болей, як пяці.
Як сьмертны кожны, так і ён,
Ня мог мінуць людскі закон.
Ня ведаў ён, адкуль падуне
Халодны вецер на самога.
Пра лёс мы ведаем нямнога,
Вядома лепш аднэй Фартуне.

### XIII

У хаце ціхай небагатай,
Дзе жыў Сьцяпан ускрай сяла,
Дзе гурбы сьнегу роўна з хатай
За ноч віхура намяла,
Сьцяпана жонка ў гэты час
Радзіла хлопчыка якраз.
"Нямала мы хлябнулі гора, --
Казаў няраз Сьцяпан Арыне, --
Хай Бог нам гэтага пакіне,
На старасьць будзе нам апора".

### XIV

Арына не прамовіць слова,
Як сьлёзы падаюць з вачэй,
Яна змахне, яны нанова
Да долу коцяцца хутчэй.
І колькі сьлёз сваіх яна
губляла ў роспачы адна:
Ня ўбачыць радасьці
кабеце,
Свае яна нясе скрыжалі;
Чамусьці дзеці паміралі --
Ня суджана ім жыць
на сьвеце.

### XV

Ці ёсьць душа другая ў сьвеце,
З чым можна маці
параўнаць,
Хто любіць так малыя дзеці,
Хто ўмее тонка разгадаць
Малых жаданьне! Ёй да дна
Душа народжаных відна.
Якія страшныя няшчасьці,
Калі адходзяць дзеці
з дому,
Што не вярнуцца з іх нікому,
Або ў труну
маленькіх класьці!

### XVI

Сьцяпан зрабіў усё,
як трэба:
З аднэй радні узяў куму,
З другое -- кума.
Бохан хлеба
Паклаў на воз. Яшчэ яму
Арына ў рукі падала
Вялізну торбу, як вала,
Гарэлкі пляшку. І ўсё тое,
Што палажыла ў
воз жанчына,
Кум перадаў папу ўсё чынна,
Што пахрысьціў ён іх малое.

### XVII

Якраз у дзень
сьвятой нядзелі
Ў царкве малебен правялі.
Пасьля малебна госьці елі,
Сьпявалі песьні і пілі.
Да кашы ўжо прыйшла чарга,
Што дзесьці баба берагла.
Дасталі госьці свае грошы.
Наперад кожны добра ведаў:
На кашу кінуць больш суседа,
Пабіць гаршчок --
паказ харошы.

### XVIII

Кум, седзячы у куце сьмела,
Глядзеў з ухмылкай на куму.
Чакаць занадта надаела
У нецярплівасьці яму.
Кум, дачакаўшыся чаргі,
Чырвонец палажыў, другі...
-- Хто болей дасьць! --
Усе гучэлі.
А кум міргнуў,
крануўшы сваху,
І кашу бразнуў
так з размаху,
Што лішкі з трэскам
паляцелі.

### XIX

Куму хваліла хата й кума,
А кум цяпер быў надта рад.
Ён нават гэтага й ня думаў,
Што вып'юць два разы
падрад
У гонар кашы. Ад таго
Зьвінелі болей усяго
На ўсіх сталох кілішкі звонка,
Што выпівалі за малога;
Жадалі, каб праз год другога
Радзіла сына мужу жонка.

### XX

Ці быў хто родны, ці далёкі --
Усе госьці выйшлі з-за стала.
Кума пусьцілася у скокі,
Аж громам хата загула.
Кружыла многа маладзіц
Па хаце веерам спадніц.
Пайшоў і кум усьлед за імі:
То ён прытупне, то прысядзе,
То йдзе ўпярод у
стройным радзе,
А то й куму рукой абдыме.

### XXI

За імі ўсе пайшлі у скокі,
Ня мог ніхто цяпер стаяць.
Рукамі ўзяўшыся у бокі,
Па хаце ўжо пайшлі
скакаць.
І за сыноў і за дачок
Шумеў па хаце
"Крыжачок".
А граньне п'янага музыкі
Навокал весела ляцела.
Ад скокаў хата аж гудзела
У дні народзінаў вялікіх.

### XXII

Хто змог, як мы,
дзядоў багацьці
Так чыста ў песьнях
захаваць?
Скажэце, сіл у каго хваціць
У горы весела сьпяваць?
Я многа раз дзівіўся сам
Пашане блізкім і гасьцям.
І дзе чые людскія душы
Праз шмат мінулых
пакаленьняў
Пранеслі гэтулькі
сумленьняў,
Што нават час іх
не парушыў?

( Працяг будзе).

# НОВЫ АЛЬБОМ "ЛІЦВІНОЎ"

У Доме літаратара ў Мінску адбылася прэзентацыя новага магнітаальбома вядомай беларускай фальклорнай групы "Ліцвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Берберава. Пасля выхаду ў свет у 1992 годзе першага магнітаальбома "Ліцвіноў" іх песні сталі часта гучаць па радыё, яны ўваходзяць у хіт-парады беларускай музыкі. Дарэчы, адну з песень вядучы вечара, музычны аглядальнік газеты "Чырвоная змена" Вітаўт Мартыненка прадставіў, як суперхіт гурта, і злёгку абурыўся, калі зала засмяялася з неўласцівай фальколору тэрміналогіі. Хаця, як гаворыцца, справа густу. Тым больш, што асноўнымі прыхільнікамі гэтай музыкі з'яўляюцца людзі маладыя, а ў іх -- свая тэрміналогія і свае погляды нават на фальклор.

Шчыра кажучы, я трохі здзівілася, калі ўбачыла залу, цалкам запоўненую маладымі людзьмі. Спачатку падумалася, што гэта мода, якая іншы раз ставіць у тупік сваімі бясконцымі капрызамі. Але ж -- мода на аўтэнтычны фальклор? Наўрад ці, бо каб зразумець гэтую музыку, трэба мець і густ, і досыць высокі ўзровень музычнай адукацыі і культуры. Тут усё сапраўднае і натуральнае: і мова, што гучыць, як шмат год таму, і спевы, і нацыянальныя строі, у якія апрануты артысты, і інструменты. А галоўнае -- сапраўднай чысцінёю і прыгажосцю асветлены твары ўдзельнікаў гурта, якія вяртаюць людзям забытае імі мінулае.

Аўтэнтычны фальклор -- гэта нацыянальная культура найчысцейшай, найкаштоўнейшай пробы. Як бывае абсалютны слых, што дае магчымасць чуць і разумець найскладанейшыя музычныя фразы і нюансы, так, на мой погляд, бывае і абсалютны густ, што дазваляе спець песню, якую без запісу нот і слоў будуць памятаць і спяваць і праз сто, і раз дзвесце год. Такі густ быў уласцівы нашым продкам, такі густ уласцівы і тым, хто знаходзіць і даносіць да нас сёння каштоўную спадчыну роднай зямлі.

Новы магнітаальбом групы "Ліцвіны", праца над якім толькі што скончана, вельмі хутка паступіць у продаж, і кожны жадаючы зможа набыць для сябе ў кіёсках Таварыства беларускай мовы чароўную нізку беларускіх мелодый, якія адрадзілі і выдатна выканалі маладыя артысты.

**В. АНАТОЛЬЕВА.**



**Бенефіс народнага артыста Рэспублікі Беларусь Яўгенія Шыпілы прайшоў у Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа. Так было адзначана 50-годдзе акцёра. За чвэрць стагоддзя работы ў тэатры Яўгеній Шыпіла сыграў на сцэне каля двухсот ролей.**

**НА ЗДЫМКУ: Яўгеній ШЫПІЛА ў ролі Фядоса Мульціка ў спектаклі "Вечар".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# ПЯТАЕ, ДЫ НЕ АПОШНЯЕ?

Што ні кажыце, а цікавасць да беларускай мовы павялічваецца. Усё ж грамадзяне суверэннай дзяржавы пачынаюць прывыкаць да таго, што яна з'яўляецца дзяржаўнай. Гэтым можна растлумачыць і ўзрастаючы попыт на розныя слоўнікі. І, безумоўна, найперш руска-беларускія. Толькі што выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выпусціла апошні, трэці том чацвёртага і выпраўленага выдання слоўніка, як наспела патрэба ў чарговым -- пятым. Чытачы атрымалі нядаўна першыя два тамы. Дарэчы, наклад немалы -- 75 тысяч асобнікаў.

# УЗНАГАРОДА "ЕЎРОПА НОСТРА"

З Гаагі прыйшло прыемнае паведамленне. Міжнародная арганізацыя "Еўропа Нострa", асноўнай мэтай якой з'яўляецца ахова і захаванне архітэктурнай і прыроднай спадчыны і якая дзеля гэтага аб'ядноўвае больш за 200 еўрапейскіх няўрадавых арганізацый і звыш 700 індывідуальных членаў з 29 краін, абвясціла пераможцаў штогадовага конкурсу ў галіне кансервацыі і рэстаўрацыі.

Больш чым 150 заявак, атрыманых "Еўропа Ностра" з 19 краін, разглядаліся міжнародным журы экспертаў па чатырох катэгорыях: рэстаўрацыя старых будынкаў, прыстасаванне старых будынкаў да новых патрэб, захаванне прыродных і гістарычных ландшафтаў і новыя збудаванні ў зонах гістарычных забудоў. У выніку адзначаны былі толькі 45 аб'ектаў. Нам вельмі прыемна, што адна з узнагарод "Еўропа Ностра" прысуджана праведзеным работам па рэстаўрацыі і прыстасаванню Мірскага замка. Высокі ўзровень праекта рэстаўрацыі гэтага аб'екта адзначаўся міжнароднымі экспертамі ЮНЕСКА і раней, але падобная ўзнагарода прысуджана нам упершыню.

Да таго ж, Мірскі замак -- першы на тэрыторыі былога Саюза ССР, які ўдастоены такой узнагароды.

**Н. КРЫВАШЭЕВА.**

# КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР ДЛЯ ІНВАЛІДАЎ





**У нялёгкі час жыве беларускі народ, але ўсё ж і ў гэтыя дні адбываюцца падзеі, што ўмацоўваюць у сэрцы кожнага надзею на лепшае.**

**Менавіта такой з'явай стала адкрыццё ў Мінску культурнага цэнтра для інвалідаў. Айцец ІГАР (на здымку), які асвяціў новы цэнтр, пажадаў поспеху ўсім, хто, нягледзячы на цяжкія хваробы і пакуты, захапляецца музыкай, маляваннем, спевамі, шахматамі (другі здымак).**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ЗАСТАЎСЯ АПТЫМІСТАМ

Сёлетняй вясной сустрэў сваё 75-годдзе заслужаны дзеяч культуры пісьменнік Аляксей Слесарэнка. З гэтай нагоды сталічны Дом літаратара наладзіў творчую вечарыну юбіляра. Ва ўтульнай зале ля каміна сабралася шаноўная публіка: прыхільнікі таленту, сябры, сваякі. Большасць -- пісьменнікі. Тут жа была разгорнута выстава, прысвечаная жыццёваму і творчаму шляху Аляксея Аляксеевіча як акцёра эстрады і літаратара.

Рэй на гэтай вечарыне вёў паэт Уладзімір Паўлаў. У сваім уступным слове ён адзначыў шматгранны талент Аляксея Слесарэнкі, які ў свой час здымаўся ў фільмах "Палескія рабінзоны", "Бежын Луг", "Вясёлыя хлопцы" і іншых; напісаў шэраг кніг, сярод якіх "Дарагія аблічччы" і "Жыццё ў мастацтве", дзе стварыў партрэты знакамітых дзеячаў тэатра і кіно: А. Даўжэнкі, С. Эйзенштэйна, П. Малчанава. Як акцёр эстрады, Слесарэнка-чытальнік усё жыццё актыўна прапагандуе беларускую мастацкую літаратуру. Ён гадзінамі можа чытаць з памяці творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна і іншых. Талент Аляксея Слесарэнкі як майстра мастацкага слова вядомы не толькі ў нашай краіне, але і на Украіне, у Расіі.

Каля трох гадзін доўжыўся гэты юбілейны вечар. І не дзіва. Жадаючых прывітаць Аляксея Слесарэнку, сказаць яму шчырыя словы падзякі і пашаны было шмат: народны пісьменнік Іван Шамякін, Віктар Супрунчук, паэты Васіль Зуёнак, Алесь Пісьмянкоў, Пятро Прыходзька, які прачытаў верш, прысвечаны юбіляру. Пачуццём гумару і зычлівасці вылучалася выступленне літаратара Янкі Курбекі, які шмат гадоў працаваў разам з Аляксеем Слесарэнкам у Літаратурным музеі Якуба Коласа.

Цёпла прынялі прысутныя выступленне народнага артыста Віктара Чарнабаева, Анастасіі Рунковіч і Анатоля Бальцэвіча -- шчырых сяброў Слесарэнкі па канцэртнай дзейнасці. Іхнія ўспаміны перанеслі ўсіх нас у тыя 60-я, 70-я гады, калі шаноўнаму юбіляру спадарожнічаў выключны поспех. Былі выкананы любімыя творы А. Слесарэнкі.

Ад Міністэрства культуры юбіляра віншавалі Ніна Загорская і Георгі Марчук, ад Беларускага радыё -- Міхась Пацёмкін, ад Беларускай філармоніі — артысты Галіна Дзягілева, Зоя Станкевіч, Лявон Шурман. У сваіх выступленнях яны адзначалі няўрымслівасць творцы, яго унікальны дар чытальніка, самаахвярную працу дзеля папулярызацыі беларускага мастацкага слова.

Двойчы браў слова сам юбіляр. Ён гаварыў пра цярністы шлях майстроў мастацтва, якія працуюць на ніве нацыянальнага адраджэння. Нягледзячы ні на што Аляксей Аляксеевіч застаецца аптымістам і лічыць сябе шчаслівым, бо рэалізаваўся і як чытальнік, і як літаратар.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

# ВАЎКАСТАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Хай цяпер да скону жыцця свайго пярэваратнямі бегаюць. Каб ім спакою болей ніколі не было, як няма яго зараз мне! Цяпер усё сказаў, пускай мяне на маё месца, бо нельга, каб сонца зусім узышло.

-- Ага, -- адказвае хітры салдат, -- ты, аказваецца, ужо даўно памёр, але ўсё роўна па-ранейшаму чараўніцтвам сваім займаешся? Злое як тварыў, дык і працягваеш тварыць людзям, а што ім, бедным, пра гэта думаць? Яны ж і не ведаюць нават, як ад тваіх чараў пазбавіцца, каб назад ператварыцца ў звычайных жанчын ды мужчын. Што, ім да скону жыцця гібець у ваўчыных шкурах? Гавары, злыдзень, як ад усяго твайго чарадзейства пазбавіцца, бо пратрымаю да таго часу, пакуль і сапраўды сонца цябе тут не заспее!

Нябожчык трымаецца, нібы і не баіцца гэтакай пагрозы.

-- У такім выпадку, -- гаворыць салдат, -- я застануся на тваім месцы і пагляджу, што з гэтага будзе.

Вось тут і не вытрымаў памершы чараўнік, здаўся:

-- Вазьмі ад маёй дамавіны адламі добрую трэску, потым, калі зойдзеш у хату, дзе ідзе вяселле, запалі гэтую трэску і пакуры кожнага ваўка паасобку. Хвілін праз колькі яны стануць гэткімі ж, як і раней, людзьмі.

-- Глядзі ж, калі толькі паспрабаваў мяне абдурыць, то не дарую! Прыйду і зноў падпільную! -- сказаў салдат і вылез з магілы.

Праз хвіліну дамавіна зачынілася, зямля -- закрылася, крыж -- выраўняўся і стаяў сабе абыякава, як ні ў чым не бывала. Паглядзеў служывы і рушыў у тую вёску, у якую ноччу нябожчык-ваўкалак бегаў.

Падыходзіць бліжэй, ажно чуе: там не песні спяваюць і не танцы іграюць, а голасна плачуць. З кожнага двара крыкіенкі чуюцца, а з таго, дзе дзяўчыну замуж аддавалі, гэтак ужо дзіка выводзяць, што і падысці страшна.

-- Што гэта ў вас за гора здарылася, бабулька? -- звярнуўся ён да старой, якая не галасіла, як усе астатнія, а толькі бялюткаю насовачкай выцірала свой маршчыністы твар. -- Чаго так галосяць-убіваюцца вяскоўцы?

-- Ой, родненькі, не табе будзь сказана! Гэта ж вяселле ў нас ноччу гулялі. Мае суседзі, тры браты, сястру сваю адзіную замуж аддавалі. Усё добра ішло, але апоўначы нехта з'явіўся, выклікаў іх у двор і там ператварыў у ваўкоў. Яны спачатку і не здагадаліся, што з імі адбылося, гэтак убеглі ў хату, а калі зразумелі, то забіліся пад печ і не вылазяць адтуль, толькі выюць-стогнуць бесперапынна... Чуеш, во? -- мовіла старая.

-- Ага, -- услухаўшыся, адказаў салдат.

-- Хто толькі ім цяпер дапаможа? -- выдыхнула бабулька.

-- Ды я магу... Толькі вы мяне завядзіце, а то няёмка неяк самому туды з'яўляцца...

-- Хадзем, хадзем, галубочак. Завяду цябе, завяду, -- і старая борздзенька прыпусціла ў суседскі двор.

Зайшлі ў хату. Салдат усіх людзей за парог выгнаў, а сам да падпечка нагнуўся і голасна прамовіў:

-- Выходзьце, хлопцы, ды ля парога станавіцеся, я вас ад чараў злых вызваляць буду.

Вылезлі тыя і сталі ля парога, галовы ўгнуўшы, нібы яны самі ў гэтым усім вінаватыя.

Тады служывы запаліў трэсачку і кожнага з ваўкоў па чарзе ёю пастукаў. Яны ўмомант назад людзьмі сталі.

Узрадаваліся ўсе, зноў песні звонкія заспявалі. Салдата, як брата роднага, паміж сабою пасадзілі. Ён там і жыць надалей застаўся. А вёску сталі называць Ваўкастаў, значыцца, ад слоў "ваўком стаў". Вось такую гісторыю калісьці я чуў.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**

## *СПОРТ*

### ВЫПРАВІЛІ ПАМЫЛКУ

За акіянам прайшоў апошні этап Кубка свету сярод біятланістак на дыстанцыях 15 і 7,5 кіламетра. На першай, пасля папярэдніх падлікаў, пераможцай аб'явілі французжанку Ан Брыян. Але гэта было памылкай, якую суддзі неадкладна выправілі. Аказваецца, "недзе" згубіліся два заліковыя ачкі ў беларускі Святланы Парамыгінай, здабытыя раней. Такім чынам, наша спартсменка і стала ўладальніцай Кубка свету.

Яшчэ адзін такі ж прыз уручаны С. Парамыгінай за перамогу і на дыстанцыі 7,5 кіламетра.

Улічваючы сярэбраны медаль, які заваявала беларуская біятланістка ў Лілехамеры, сёлетні сезон у яе аказаўся самым паспяховым за ўсе гады.

### ЖАЛЯЗОЎСКІ — ТРЭЦІ

У розыгрышы Кубка свету сярод канькабежцаў па суме ўсіх этапаў мінчанін Ігар Жалязоўскі заняў трэцяе месца на дыстанцыі 1 000 метраў. Пераможцамі тут сталі амерыканцы Б. Блэйр і Д. Джэнсан.

### ВАКОЛ ТЭНІСА

Буйны міжнародны турнір завяршыўся ў Кі-біскейне. У фінале мінчанка Наталля Зверава сустрэлася з адной з лепшых тэнісістак свету Штэфі Граф з Германіі. Ва ўпартым паядынку беларуска ўступіла -- 6:4, 6:1, 6:2.

А вось на турніры ў Санкт-Пецярбургу мінчанін Сяргей Скакун перамог у парным разрадзе.

### РАСЦЕ ЗМЕНА

Дзве перамогі на чэмпіянаце свету па біятлону атрымалі беларускія юніёры.

А ў апошніх спаборніцтвах выйгралі залатыя медалі і на першынстве Еўропы, якое нядаўна завяршылася ў Фінляндыі. Вось у якім стане выступала наша каманда ў эстафеце 4 х 7,5 кіламетра: Аляксей Айдараў, Аляксей Маршчакін, Андрэй Хмялеўскі і Ігар Песцераў.

### ГОРШ І НЕ ПРЫДУМАЕШ

У Лісабоне прайшла жараб'ёўка гандбольных каманд, якія ў чэрвені разыграюць і званне чэмпіёна Еўропы, і паспрачаюцца за пуцёўкі на першынство свету.

Зборная Беларусі трапіла ў вельмі моцную групу. Назавём хаця б спартсменаў Расіі (цяперашні чэмпіён свету), Францыі (другое месца ў апошнім першынстве свету), традыцыйна моцныя каманды Германіі, Румыніі, Харватыі.

### "ЗОЛАТА", ЯШЧЭ "ЗОЛАТА"

Трыццаць тры каманды прынялі ўдзел у першынстве свету па поліятлону (у Беларусі -- мнагабор'е комплексу "Здароўе"), якое прайшло ў Петразаводску.

Другое месца -- такі вынік выступлення зборнай нашай рэспублікі. Залатыя медалі заваявалі Ніна Бабкова і Дар'я Шаплыка. Д. Шаплыка стала ўжо трохразовай чэмпіёнкай свету з улікам летняга поліятлону.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 424. Падпісана да друку 28. 3. 1994 г.**